# АЎГІННЯ КАВАЛЮК

# Імгненняў след

Вершы, паэма

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987





**Шляхі жыцця, быцця штрыхі,**
**Да іх ніхто з нас не глухі.**
**Як памятае сябе свет —**
**Шляхі жыцця — імгненняў след.**



**Ці ўсё табе я аддаю, жыццё,**
**Ці ўсё, што набылі гады,**
**Што маю?**
**Маўчу, як неразумнае дзіцё,**
**І спавядацца не спяшаю.**



Слухай, сэрца, мяне, шчыра слухай!
І не здрадзь
Анідзе, аніколі.
Кроў гарачую рухай,
Сціскайся да болю.
Гэта — не жаночая споведзь,
Гэта з доляй радзімы повязь,
Сэрца, ты не спыняйся, малю:
Да цябе я радзіму тулю.



О дзень, што ты для часу значыш?
Што створыш ты, што перайначыш?
Якой з цябе чакаць карысці?
Мо за цябе сумленне грызці
Пачне да скону...
Каму ў зацішку пасядзець,
Каму з разгону ў новы век...
Адных чакае слава, другіх здзек,
Каго каханне, каго здрада...
Мой дзень, табе я сёння рада,
Нібы маленькае дзіцё.
З другімі днямі ты — жыццё.



Мне б толькі маме пакланіцца,
Маршчынкі перацалаваць,
Маленства з родных рук напіцца,
Настрой свой пераніцаваць.



Іду такая не лясная,
Іду куды, сама не знаю.
Сцяжынкі — праўнучкі дарог
Хаваюцца ў пяшчотны мох.

Працяў вясны бунтоўны сок
Наскрозь бярозавы лясок,
Спатоль маю, бярэзнік, смагу,
Дай сілу мне і дай адвагу.

Хачу я ў лесе заблудзіцца,
Хачу наноў перарадзіцца
І на палянцы на лясной
Стаяць бярозкай ці сасной
Ці ў лесе сумным ці дрымучым —
Ялінкай зелянець калючай.



Жыццё, жыццё —
старанны млын,
Пакінь што-небудзь на ўспамін.
Кахання першага палын
І здраду...
Пакінь мне жураўліны клін,
Парадуй!
Сяброў і ворагаў пакінь.
Адных любіць,
Другіх —
змагацца.
Блакіт нябёс, азёраў сінь
Яшчэ пакінь,
Яшчэ пакінь
І ўсё,
Чым вочы загарацца.

## ВЯСЁЛКА

Па-над морамі, азёрамі
Перакінула масты.
Заіскрылася калёрамі
Небывалай пекнаты.

На паўкрая над прасёлкамі
Перакінула дугу.
І здаецца мне, вясёлая,
Я за возера бягу.

За дажджамі, непагодамі
Праляцела паўжыццця,
А вясёлку так заўсёды я
Даганяю, як дзіця.

## АДВЯЧОРКАВЫ ЎСПАМІН

Выбягаем з цёплай хаты,
Да крыві здзіраем пяты.
Хто на лузе, хто на полі —
Ўсе шукаем лепшай долі.
Вечарамі зоркі лічым —
Потым песняй шчасце клічам.



Туман густы, густы,
Падобны да вады.
У ім і лета сум,

У ім і лесу шум.
Заслаў — густы — палі —
Пайду ў яго разліў.

Туман, густы туман,
Нібы сляпы спадман.
Іду, а ён асеў
На бульбе, на аўсе.
Расой маўчыць туман.
Іду ў яго спадман.

## ВОЧЫ ВОСЕНІ

Вочы ў восені шэрыя,
Нібы хмары.
Ў вочы восені веру я,
Нібы ў мары.

Вочы ў восені шэрыя,
Нібы хмары.
Сумнавата-вільготныя,
Нібы ў мамы.
І глядзяць яны, родныя,
Ў сэрца самае.



Вярба сумуе ля вады,
Хістаецца ў самоце.

А хто прынёс яе сюды
І кінуў на балоце?

Каму пакажа прыгажосць
Яна адна вясною?
А падабенства, мусіць, ёсць
Ў яе з табою.



Дзень добры, маё маленства,
Дзень добры, вясны падабенства.
Мне часта начамі сніцца
Такая, як ты, вучаніца,
Такі ж у вяснушках нос
І вочкі, поўныя слёз.
Хацелася зведаць многа:
Жыццё нас вучыла строга.
А сцежка ў сяло вяртала,
І часу на ўсё не хапала.
Цяпер я амаль старая,
А часу на ўсё не хапае.



Я ўсё спяшаюся, бягу,
Ніяк спыніцца не магу,
Нібы імклівая рака,
Бягу да мора — і лазняка,
Бягу, і бегу не шкада.
А ў моры шчасце ці бяда?





Паўстанак радасці, прабач:
Нявырашаных шмат задач.
Жар-птушку выпускаю з рук,

Бо на зямлі замнога мук.
Паўстанак радасці, прабач:
Нявырашаных шмат задач...
А ты, бярозка, не тужы,
Дарэмна голлем не дрыжы.
Я да цябе яшчэ прыйду,
Сяброў у госці прывяду...
Спяшаюся туды, дзе плач,
Паўстанак радасці, прабач.



Плыву ад каляровых сноў
Да неспазнаных астравоў.
Вачам балюча ад вады,
Плыву, не ведаю куды...
Шлях да глыбіняў карачу.
— Чакайце! — Я людзям крычу,—
Чакайце, я не падвяду,
Я астравы свае знайду.



Што, Гаўя віравокая,
Ўзляцела невысока я?
Мяне няйначай лёс
На бераг твой занёс.
Сюды паклікаў любы,
Спяваў — губамі ў губы,
Падрэзаў моц крыла:
Каб вечна з ім была.



Світанак, світанак,
Мяне разбудзі,
Сцяжынкаю, ранак,
На поле вядзі.
Туманам ухутай,
Расы наспялі
І песняй рассыпся
На цёплай зямлі.
Хто глебу ўрадлівую
Пераарэ,
Расіначкі тыя —
Напэўна, збярэ.
А будуць яны ўрадлівыя,
А будуць яны шчаслівыя.



Не трэба,
не цярплю спагад!
Я не адна іду наўгад.

Дарогу выбрала сама,
Каб павярнуць —
шляхоў няма.

Звароту я і не жадаю,
Сама другім паспагадаю.



Па зімах змораных блукаючы,
Я зноў вяртаюся ў вясну.
Сама з сабою размаўляючы,
Цаню вясну за навізну.

Вясна, вясна, мая дарадчыца,
Заўчасна старыцца не дай,
Мая натхнёная загадчыца,
Зноў сэрцу нешта загадай!



Маршчынкі светлыя матулі —
Мае дарогі і трывогі.
Навошта ты мяне расчуліў,
О часе мудры, час мой строгі?





Вясна ступае асцярожна:
Яе спалохаць крыкам можна.
Адзін неасцярожны дотык —
І ўсе паблытаюцца ноты...
З нас, пэўна, кожны адчувае —
Пальецца песня не такая.



Яшчэ нас з табою дарога вядзе,
Дзе дрэвы стаяць па калена ў вадзе.
Радзеюць, святлеюць прагалы бяроз.
Асенні туман — ён яшчэ не мароз.
Яшчэ не абсыпала інеем нас,
А значыць, спыняцца яшчэ нам не час.

## У НАС ПАЭТЫ ВУЧАНЫЯ

У нас паэты вучаныя
Не рыфмуюць,
Як жанчыны змучаныя
Каханых пястуюць,
Як цягнуць пудовыя сеткі
Мае суседкі.

А потым і вараць, і параць,
І нават пра нешта мараць...
У нас паэты вучаныя
Не рыфмуюць
Пра тое, як жанкі разлучаныя
Дзяцей гадуюць,
Адны іх і вучаць, і лечаць,
І чалавечаць.



Усё паўтараецца ў свеце —
І лета, і восень, і дзеці...
І мы паўтараемся ў іх,
У дзецях сваіх.
То марай, то думкай,
То словам,
То песняй новай.



Бегла я за голасам,
Толькі вецер змыў.
Ён са спелым коласам
Ад мяне адплыў.
Бегла за вясёлкаю.
І яе няма.
Толькі поле колкае.
Бегла недарма.
Бегла за каханнем
Сцежкаю жыцця.
І аднойчы ўранні
Я знайшла дзіця.



Мы ўсе пячэмся за дзяцей сваіх,
Не спім начамі, бачым толькі іх.
І, ношу мацярынства несучы,
Вартуем, а яны ўцячы
Жадання поўны.
Смяецца з нас нямая поўня.
Таму, магчыма, і нямая —
Дзяцей не мае.
Бо каб былі, загаласіла б,
Ратунку б нейкага прасіла.
І не свяціла б толькі ночамі,
І стала б сонцам — каб не збочылі.



Дзе мне песню такую знайсці,
Каб да кожнага сэрца тулілася?
Як мне шчасце ў песню ўплясці,
Каб мацней яно білася?

Дзе мне песню такую знайсці
Спадарожную,
Каб лягчэй памагла перайсці
Даль трывожную?



Зямля мая мяне гайдае.
Маўчу, як тое немаўлятка,
Матуля кожная чакае
Сваё дзіцятка.

## СЫНУ

Кладу я рукі на траву,
Кладу на рукі галаву,
Пяшчотна ў неба, як дзіця,
Гляджу — там зоркі мігацяць.

І, слухаючы цішыню,
Цябе сасню.

Я ведаю, што ты не дома,
Салдацкая змарыла стома.
Ля ног тваіх
Каўказ прылёг,
Каб ты яго спакой сцярог.

## ГІТАРЫСТ

### Жарт

Маці сына кляне, дакарае
За тое, што той на гітары грае.
Сын з хаты з гітараю — ў сквер,
А там — міліцыянер.
Няма куды хлопцу дзецца,
А песня па струнах льецца,
У прастор навакольны просіцца.
Так, бедны, з гітарай і носіцца,
Як выгнаны звер:
З хаты ў пад'езд,
З пад'езда ў сквер.



Куды ўцячы,
Куды ўцячы,
Як ад спакусы зберагчы
Сваю душу?
Сама і сею, і кашу.
А дзе ж яна, мая падмога?
Ці гэткі стаў ты з вока злога?



Яшчэ кахання сын мой не спазнаў,
Яшчэ і сам дзяўчат не чараваў,
А ўжо спазнаў і гора, і бяду,
Якой і я не развяду.





Хто шукае, той знаходзіць.
Шчасце побач з намі ходзіць.
Толькі рукі працягні,
Толькі шчасце прыхіні.



Ці ж нам не сцеле восень пад ногі
Жоўтае лісце?
Каб не збіваліся людзі з дарогі,
Знаходзілі выйсце.

## ЗАБЛУКАНАМУ

Ты з кім? Ці ў адзіноце,
На холадзе, ці на спякоце?
Галодны ці сыты?
Прытулены, біты?
Сябе пытаю каторы раз,
Смяецца вецер адно ў адказ.



Вырастай, маленькі чалавек,
Спрытны будзь, цікавы да ўсяго.
Ведай, што і ў наш дваццаты век
Не хапае шмат яшчэ чаго.

Не хапае нам на крыўду злосці,
На геройства не хапае славы,
Не хапае праўды, прыгажосці.
Стань, малыш,
Плячом сваёй дзяржавы.



Маладому хлопцу сніцца
Жартаўніца, чараўніца.
Жартавала, чаравала
І да сэрца прыкавала.
Што, скажыце, з сэрцам будзе?
Не раскуць яго аблудзе.
Не раскуць, і не разбіць,
І вадою не разліць.
Вось як!

## РОЗДУМ

Паслухай, ноч,
Там паміраюць людзі,
Людская смерць усіх нас сёння студзіць.

Ці чуеш, ноч,
Там паміраюць дзеці.
А іх забойцы
ходзяць па планеце.



У кожнага лёс асабісты...
Я ўбачыла клён бязлісты.
Бязлісты, немалады,
Злаваўся ён на гады.

У кожнага лёс асабісты...
Прыгожы лужок квяцісты
Прыйшлі касцы і скасілі.
Ці кветкі ратунку прасілі?

У кожнага лёс асабісты...
Цячэ ручаёк празрысты,
Каменьчыкі коціць,
А гіне ў балоце.

У кожнага лёс асабісты...
Ячмень зарадзіў зярністы,
Сабою поле залоціць,
Людзі яго змалоцяць...

* * *

Ці ж мудрацы зрабілі адкрыццё,
Ў чым існаванне,
ў чым жыццё?
У кожнага адна мана,
і праўда ў кожнага адна.
Як сыта ем і мякка сплю,
бяды нікому не раблю.
Сычом па горадзе сную,—
жыву тады ці існую?
Той, хто сумленне прадае,
жыве ці толькі існуе?
А хто яго купляе,
на што ён права мае?

* * *


На тварах матак заклапочаных
Адбіўся лёс дачок, сыноў.
А ў сэрцах тыя, што на ўзбочынах
З вачыма выплаканых сноў.

Ніколі гора не забудзецца,
Хоць злой віхурай адшуміць,
Ніколі сэрца не астудзіцца —
Яму гарачым вечна быць.



Спякота — не схаваешся нідзе.
Калі ж яна, нядобрая, спадзе?
Калі пральецца дождж, калі?

Не вечна быць удушлівай спякоце.
І знікне летні дзень у пазалоце,
Расой, нібы дажджом, умые ноч
І, даўшы сілу, ціха скажа: «Кроч!»



Завея кросны не снуе...
Вясна, снег мяккі растае.
Зямля сівая...
Вада тут мутная і злая.
Злуе, здаецца, бераг змые.
Жывуць на свеце людзі злыя.
Яны нібы ў разліў вада —
Ад злосці іх адна бяда.



Уздыхаюць вясной бярозы,
Ім вятры заплятаюць косы.
Толькі ссохлыя дрэвы не плачуць,
Не стае ім жывіцы гарачай.
Паміраюць пацíху, стоячы,
Нават раны свае не гоячы.
І над імі вятры толькі кружаць,
А яны і мёртвыя служаць.

## ЯБЛЫНЬКА

Яблынька ў дзікім садзе
Ні з кім не ў ладзе:
З маленькай усе смяюцца
Ды ўгору як могуць імкнуцца.
А яна толькі пачырванее,
Сокам сонца нальецца,
Вылезці вышэй не ўмее,
Сарамлівая прыгнецца
І маўчыць.
А ўвосень долу
Узмахне галінаю кволай
І румяны яблычак кіне.
Ах, дрэва якое гіне!



Мінае час, ён абнаўляе век.
У гэтым абнаўленні чалавек
Расце,
Знішчаюцца нікчэмнасці душы,
І старажытнасць, нібыта з глушы,
Заходзіць у наш быт, сумленне,
Чакаючы свайго пераўтварэння.



Колькі сцяжынак,
Колькі дарог...
Колькі па іх праходзіць ног.
Часам туды
Сцяжына вядзе,
Дзе сонца купаецца ў чыстай вадзе.

Часам туды,
Дзе выйсця няма...
Значыць, сцяжынку пратопаў дарма...

Нешта ў жыцці
Не тое зрабіў,
Нешта на гэтай сцяжынцы згубіў.

## КОЛА

Дабро са злом спрачаецца,
Святло цяплу ўсміхаецца,
Зіма з вясной спрачаецца.
Дзень з ласкі пачынаецца.



## УМАЛОТ

Родныя абшары
Золатам заліты.
Думкі ўсе і мары
Сеюцца на сіта.

## РУКІ

«Глядзець на рукі — дрэнная прыкмета».
Даўно не верыцца у глупства гэта.
Бо сілу рук мы ведаем,
Ды не тады, як снедаем...
Яны і косяць і аруць,
Штурвал упэўнена бяруць...
О, рукі, рукі —
вечны ўзмах:
Пад кулямі трымалі сцяг.
І ў здрадніка стралялі,
не дрыжэлі,
За працаю дужэлі.



Белыя зайчыкі скачуць
Па столі і па сцяне...
Дзеці ад гора не плачуць,
Як мужыкі на вайне.
Дзеці ад гора смяюцца,
Дзеці не тояць злосць,
Дзеці ў палон не здаюцца,
Дзеці такія, як ёсць.



Дарогі, дарогі,
Потам, крывёю аблітыя,
Ля сэрца матулі
Вы, нібы арбіты.



Сон найлепшы у дарозе
З добрай думкай аб парозе,
Аб зямлі, аб родным хлебе,
Аб птушыне ў сінім небе.
Найцяжэйшы шлях кароткі:
Слепата бярэ за глотку,
Думкі сумныя варушыць,
А гады дажджом цярушаць
Найдарожшы пот праліты.
Золата і аксаміты
З ім не могуць параўнацца:
Пот праліты — гэта праца.
Найглыбейшы погляд сябра:
Дабярэцца ён да скарбаў,
Што схаваны аж на донцы,
І размножыць іх на сонцы...

## МУДРАСЦЬ

Мудрасць, скуль жа бярэшся ты?
Ці са злосці, ці з дабраты?
Праз вякі да людзей ідзеш
І на плаху сябе кладзеш.
Чаму?



Дуб плячысты,
Дуб шырокі
Пазірае на аблокі,
Не зайсці яму за высі:
Сокі доле засталіся.

У зямлі пакінуў сокі,
Вось і вырас невысокі.
Хай пра высі таполя марыць.
Дубу хораша гаспадарыць.



Сколькі мора пераваліць,
Перакоціць той вады.
Колькі сэрца перахваліць,
Перасоліць праз гады...
Будзе добрым і ліхім,
Будзе чулым і глухім...
Абагрэе, замарозіць
І згарыць на паўдарозе.



Паэзія — гэта чароўны палон,
Дзе сніцца цудоўны і казачны сон.
Паэт у палоне срабрыстай ракі,
Блакітнага неба, гарачай рукі.
Паэт у палоне нязбытлівых мар...
Палоніць паэта Айчыны абшар.
Глыбіні галактык палоняць яго...
І долі паэту не трэба другой:
Бо толькі жадае настойліва ён,
Не скончыўся б гэты салодкі палон.



Зноў да цябе звяртаюся я,
Радзіма, блакітная кветка мая,
Ты мой тумановы бераг,
Апора і ў шчасці і ў бедах.
Кроплі крынічнай вады
Мне сілу даюць заўжды.

Радзіма, блакітная кветка мая,
Да скону з табою зраднілася я.
Ты думка мая і сон.
Пад роднымі шатамі крон
П'ю радасць імклівых рэк...
З табою зродненая навек.

## МАЯ БЕЛАРУСЬ

Ты мой лёс,
Ты мая доля.
Тут мяне маці
Згубіла ў полі,
А бусел знайшоў,
Пасадзіў на грушу.
Таму, мой куток,
Любіць цябе мушу.

А з грушы мяне памалу
Бабуля-шчыруха здымала,
У прыполе валакла,
Быць шчаслівай наракла.





Спяць ластаўкі пад дахам хаты
І бачаць сны.
Наўкол ліецца водыр мяты,
Ляноты летняй і сасны.

Сасновы край, зямля чужая —
Усім падобна да маёй.

І падабенства суцяшае,
І робіць сонечны настрой.

На Гродзеншчыну надта цягне,
Да родных стрэх.
Душа мая радзімы прагне.
Я ёй дарую светлы грэх.

## ЗЯМЛІ

Я з табой назаўсёды звязана,
Я табе жыццём абавязана.
Ты са мною ў гневе, ў настроі
Думкі думаеш, мроіш мроі.

А ці ў лівень, ці ў спёку гарачую,
Ці смяюся я, а ці плачу я,
Ты даеш душы раўнавагу,
Наталяеш няўтольную смагу.

У калысцы тваёй
На сваім вяку
Я на ўласным сплю кулаку.
І ад вечара аж да ранку
Ты спяваеш мне калыханку.

## ГРОДНА

Вяртаеш ты мяне ў дзяцінства,
Мой горад.
Дыханне вечнага адзінства
Гаворыць:
І непаўторны ты, і вечны,
Як позірк, як напеў сардэчны.
Прыціхлы, шумны, як і Нёман,
Найлепшы, першы мой знаёмы.



Зорачкі-зоры,
Ў шчасці і ў горы
Любы, вы любы
Сэрцу нямому.

Зорачкі-зоры,
Ў шчасці і ў горы
Клічаце ўладна
Сэрца дадому.



Хвалі ракочуць,
Грукоча гром.
А ў моры траўлер — маленькі гном,
Мора шалее, мора гудзе,
Кроплі салёныя на барадзе.
Гном усміхаецца, песню пяе,
Мора ўрываецца ў словы яе.
Хваля трымае песню ў цісках,
Потым рассыпле на белых пясках.
Голас той песні ўсплывае здаля.
Слухайце, людзі,
Слухай, Зямля!

## ВАЙНА

Ізноў яна і там, і тут,
Бяда нясе ярмо пакут,
Нясе, як сорак первы нёс,
Балючы дзень крывавых рос.
Ізноў яна і там, і тут.
Зноў гіне марна добры люд,
Зноў плача голасна дзіця
І цягне ручкі да жыцця.



Хатынь, Хатынь,
Твае званы —
Боль, адгалосак
Той вайны.
Там, дзе дымілі каміны,
Трывожаць сны зямлі званы.
Ты, памяць, вузел завяжы,
Боль аб Хатыні збеaccording



Адвеку вы шчасця шукалі,
Косы ў азёрах купалі.
Варажылі, пускалі вянкі,
А лёс быў сярдзіты такі.
Пускалі вянкі ў ваду,
Знаходзілі гора, бяду.

Дзяўчаткі,
Ваш лёс не ў вянках —
У вашых уласных руках!

## МАТКАМ

Як гора крута павярнула:
Вайна сыноў вам не вярнула,
Зрабіла вас удовамі...
А сонца над дубровамі,
А сонца над палеткамі,
Гуляе сонца з кветкамі...



Хоць гарадская,
Але з сяла.
Бачыла, помню, як грэчка цвіла,
Помню, палола з сястрою лён,
І нам быў дужа ўдзячны ён.
Сувойчык льняны яшчэ берагу,
Бялюткі, нібы качаны ў снягу.
Смяецца нявестка, дзівіцца сын,
Што лён паважаю больш, чым крэмплін.

## СТАРЫ ДОМ

Старэнькі ўжо ідзе на злом
З глухой страхой, пахілым плотам.
Нас будзе цешыць новы дом...
Ды нешта прабівае потам.
Свой скарб перанясём туды,
У дом навюткі, неспазнаны.
Ды прыйдзе памаўчаць сюды,
Як часта ходзяць партызаны
У бор, дзе згублены сябры...
Бывай, даруй нам, дом стары.

## НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

Я апускаюся млява
На мяккія летнія травы.
Плюю на спадніцу модную:
Зямлю абнімаю родную.
Да кветак прыцісну ўшы вуха,
Люблю цішыню паслухаць.
І водыр заўсёды мілы
Мяне напаўняе сілай.



Ціша.
На травах настоена ціш...
Над Нёманам спелае лета.
З зайздрасцю ты на дарогу глядзіш.
Быццам чужое ўсё гэта,
Быццам ты госць на сваіх берагах,
Быццам бы толькі знаёмы.
Спелае лета на родных лугах...
Добрае сонца над домам.



Дарэмна крыўдзішся, мой бераг,
Я не адбілася ад рук.
Ты шчырасці маёй не верыш,
Не чуеш сэрца перастук.

Дарэмна крыўдзішся, мой бераг,
Што я вяртаюся ў свой кут.
Ты ж мне ніколі не даверыш
Сваёй тугі, сваіх пакут.

## БЕЛАЯ ДЗЮНА

Дзюна белая,
Ты, як і я,
нясмелая,
Ты, як і я,
сіратлівая.
А ці шчаслівая?
Мора вымыла,
сонца выпекла,
І цябе жыццё
ветрам высекла.
Дзюна белая,
Ты, як і я,
заінелая.

## ДА ПОМНІКА ЯНУ РАЙНІСУ

Прымі кветкі, кладу іх не ўпотай,
У іх любоў і мая пяшчота.
У іх блакіт беларускіх нябёс
І кропелькі срэбных рос.

## ДЗВІНА

Цаджу ваду марскую...
Дзвіна, твой голас чую.
Цябе ў граніт забралі,
І Даўгавай назвалі...
О, як ты мне патрэбна,
Маёй радзімы срэбра!

## ІМГНЕННІ

### ВЯСНОЙ

Бярозкі, мае сястрыцы,
Не соку прыйшла напіцца,
Вясну я прыйшла надгубіць
І гэтым куток палюбіць.

### ЛЕТАМ

Бярозкі, мае сястрыцы,
Паспелі ля ног суніцы.
Ні есці, ні браць не буду,
Бо гэты куток забуду.

### ВОСЕННЮ

Бярозкі, мае сястрыцы,
Вы ў золаце, нібы царыцы.
І я прыгажэю з вамі —
Пакуль што блакіт над намі.

### ЗІМОЙ

Бярозкі, мае сястрыцы,
Мне позна да вас туліцца,
Ўжо срэбра з ялін спадае,
На скроні мае сядае.



Хіба ж можна з табой не бачыцца,
Любы край?
І смяецца з табой, і плачацца,
Любы край.
Ты трывогі мае разганяеш,
Любы край.
Ты мяне разумееш, натхняеш,
Любы край.



Мы шчыра любім той куток,
Што нам падаець вады глыток.
Мы сціпла любім той куток,
Што пасля доўгага расстання
Пакліча моўчкі на спатканне.
І цішу збудзіць сэрца стук...
І моўчкі прыме з родных рук.
Кавалак аржанога хлеба.
Куток, які чакае нас,
Нам неабходны ў цяжкі час.
А больш нічога нам не трэба.

## ПАХІ

Пахне горад домам новым,
А газета — добрым словам.
Снег сыпучы — чысцінёю...
Чым прапахлі мы з табою?
Мусіць, грукатам дарогі:
Бо на іх збіваем ногі.
Нас даўно трывожаць пахі,
Целам продкаў пахлі плахі,
А вайною — абеліскі.
А зямля — жыццём, з калыскі.

Перамешаны ўсе пахі...
Думкі песнямі, як птахі,
Узляцяць пад звон вясёлы,
Кры́ллі зложаць, і пад колы
Кінуць змучанае цела,
Абы толькі багацела
Ты, зямля.





Памяць вяртае ў святое.
Толькі, душа, не маўчы,
Пішуцца вершы пра тое —
Знойдуцца і чытачы.

Хіба міналі нас кулі
Ў тыя пякельныя дні?
Хіба ў вадзе не танулі
І не гарэлі ў агні?
Ці тая памяць астыла
І не пячэ, не гарыць?
Хіба вас смерць не вучыла
Тое, што маем, цаніць?
У памяці цвёрда трымаем
Тых, хто ў граніце сівым,
Цэнім, і верым, і знаем —
Памяць патрэбна жывым.

## ХВІЛІНА МАЎЧАННЯ

Плач ад жалю, душа,
Тут героі ляжаць.
Прапісала вайна
іх на польскай зямлі.
З майго краю былі.

Плачце, дрэвы, ад жалю плач, дзень,
Неба, чорную хмару адзень!
Прапісала вайна
на нямецкай зямлі,
Нам братамі былі.

Мора, плыні свае спыні,
Хваль да берага не гані.
Прыпісала вайна назаўжды
Да балтыйскай сцюдзёнай вады.
А былі яны з розных мясцін,
Маладзенькія ўсе, як адзін.

Плачце, дзюны, застыньце, пяскі,
Анямейце, сады і ляскі.
Прыпісала вайна да маўчання ў зямлі,
А жывымі былі.

Плачце, горы і долы Карпат,
Плачце, вочы матуль і дзяўчат:
Дзеля нас гэты вечны спачын,
Плачце, вочы, а мы — памаўчым.

## У ПАМЯЦЬ

Чыясь пасцель-магіла ля дарогі,
Лісты схіліліся да абеліску.
Тут спіць салдат савецкі,
Воін строгі,
Ты перад ім схіліся
нізка, нізка.
Ці ён студэнтам быў, а ці салдатам,

Каханай слаў ласкавыя лісты.
І ездзіў на канікулы дахаты...
Ва ўсім ён быў такім,
як ты.
Як ты, ён быў
парывісты і строгі,
Умеў, як ты, Айчынай даражыць...
Яго пасцель-магіла ля дарогі,
Ён ваяваў,
каб ты застаўся жыць.



На акопішчы мурог.
Бачыць неба
Каля лесу ўздоўж дарог
Сёння трэба.
Старшыня немалады
Каля жыта.
Колькі праз усе гады
Пераржыта.
Колькі пройдзена дарог,
Колькі сцежак.
Кліча ціша на мурог
І на ўзмежак.

Мармуровы абеліск
Небу ўзняты.
Ў гэтай цішыні з вайны
Спяць салдаты.

## НА ГРУНДВАЛЬСКІМ ПОЛІ

А на Грундвальскім полі славы
Стаяць няскошаныя травы,
Над травамі маўчаць вякі...
Шматок зямлі, твой лёс такі.

Ніхто не сее і не косіць,
Вятры над травамі галосяць.
Тут, на Грундавальскім полі славы,
Стаім і мы на сонцы млявым.

Застыла памяць на граніце,
А час імёны паўшых выцяў.
Тут, на Грундвальскім полі славы,
Адзнакі даўніх дзён крывавых...

Нашчадак, галаву схілі:
Баліць дагэтуль прах зямлі.



О колькі плёну, колькі руху!
Спыніся і вясну паслухай!
Яна у чарамховай белі,
Яна дыван зялёны сцеле...
Ва ўсім, што кідаецца ў вочы,
Яна ідзе, яна рагоча.
Хіба суняць яе хто можа?
Яна пяшчотнасцю трывожыць.
О колькі плёну, колькі руху.
Спыніся і вясну паслухай!



Цяпло вясны нас цешыць,
Цяпло вясёлых сцежак
Нам сніцца па начах.
Цяпло ў людскіх вачах,
Цяпло ў руках, і ў рэчах,
І ў справах чалавечых.
Яно штодзень смяецца,
Яно ў гады снуецца.
Цяпло заўсёды будзе
Дабром у людзях.

## ЖЫЦЦЁ Ў РУХУ

На поўдзень птушкі касяком,
Над нашай хатай праляцелі.
І пуста ў полі за сялом,
Зіма на нас марозам цэліць.

І Нёман крыецца лядком,
Яму цяжэй ісці да мора...
А нечаканасць, нібы гром,
Ударыць горам.

А трэба поле перайсці
І гора пераджыць:
Бо за дарогай неба сінь
Нячэпанай ляжыць.

## ДАРОГА

Яна ў вялікі свет вядзе людзей
Праз горы горкіх думак і надзей.
Не пройдуць людзі — зарасце дарога
Да светлага ўсяго і дарагога.
Гушчар упрэцца ў неба, згаснуць зоры,
Дарогу бездарожжа сціснe ў зморы.



Нехта кінуў сляды,
Нехта росы абтрос,
Нехта нешта другому панёс.
Можа, радасць, а можа, бяду.
Ці адказ я на гэта знайду?
Праляцела я мала гадоў,
Многа згублена розных слядоў.
А ці хто забароніць хадзіць?
Каб сляды пакідаць — не слядзіць...



Здрадзіць можна
адзін толькі раз,
Адшукаць таксама аднойчы.
Здраднік будзе шчаслівым на час,
Потым дні яго зменяць ночы.

Здрада будзе яго душыць,
Ашуканства таксама мучыць,
Аж пакуль
чалавечна жыць
Не навучыць.



О колькі сілы трэба мець,
Каб з роспачы не анямець.
Ды болей гневу трэба мець,
Каб песні пець.
Каб на адзначаным вяку
Камусьці працягнуць руку —
Тады, як гэта неабходна,
Каб зразумець усё, што шкодна.



Лягчэй жывецца маладым:
Ім град не град, ім дым не дым.
Ці трэба волю гартаваць?
Ці трэба славу шанаваць?
Пытанняў шмат,
Пытанні ёсць.
Праходзіць хутка маладосць.
О, старасць, белая як лунь,
З тваіх жа рук рунее рунь.



Не сумуй, чалавеча,—
Птушка ў небе шчабеча,—
Гэта я,
Гэта я —
Задуменная песня твая.

Пра вясну не пытай,
Ты вясну прывітай!
Гэта я,
Гэта я ў тваім сне —
Кветка ранняя ў нашай вясне.

Ведай, любы,
Вецярок, што цалуе губы,
Гэта я,
Гэта я —
Спадарожніца ў заўтра твая.



Так кліча лес,
Крычыць здалёк,—
Прыходзь,
Любуйся колькі можаш!

І не бядуй, што ў гушчары
Пявучых птушак патрывожыш.
Сяброў з сабою прывядзі,
Прыходзь, любуйся колькі трэба!
І, можа, ўбачыш першы раз
Нязвыклы колер неба.

## ЛАТВІІ

Сіні колер неспазнаны,
Мараю ўскалыханы.
Зачакалася ўдача.
Зоры выйшлі рыбачыць.

Ім і добраму краю
Шчыра ўлову жадаю.



— Скажы, дзядок сівабароды,
Якой жа ты такой пароды?
Якія зведалі навукі
Твае святыя вочы, рукі?

А ён:
— Няма чым выхваляцца.
Такім мяне зрабіла праца.
Мае навукі і дыпломы —
Адбудаваныя харомы.
На рукі мне хапіла мукі,
Стараўся змалку без прынукі.
І ці святыя вочы тыя,
Ў якіх сляза гаркоты стыне?



Спяшаю маме пакланіцца,
З ёй пра жыццё паразважаць,
Дзяцінства з рук яе напіцца
І зноў за праўду ваяваць.

Каб не было той чорнай злосці
Паміж народамі зямлі,
Каб мост злучаў —
Не кволы мосцік,
Каб людзі лепшымі былі.



Мне вады адзін глыток,
Неба сіняга шматок.
Не, ніколі не напіцца
Ціхім шчэбетам крыніцы,
Дарам неба і зямлі,
Што ў палон даўно ўзялі.



## ЗАКАХАНЫМ

У іх паклікалі змярканні,
І ў іх спатканні і расстанні,
І ў іх прызнанні, таямніцы...
Абы не зналі навальніцы...

## МАМА

Мякка спіцца на руках тваіх,
Мама.
Смачна сніцца на руках тваіх,
Мама.
Добра марыцца на руках тваіх,
Мама.
Не сцялі, не сцялі мне нідзе,
Мама.
Не будзі, не будзі маіх сноў,
Мама.
Не трывож, не трывож маіх дум,
Мама.



З песняй матчынай
Лёгка крочыць,
Карацейшыя дні і ночы,
Прыгажэйшыя горы і долы,
Багацейшыя родныя сёлы,
Дужэйшыя гарады.
Песня матчына ўжылася ў гады.



Пераспяваю, пераплачу
Сваю бяду, сваю няўдачу.
Далонямі яе прыкрыю,
Слязамі змыю
І ў рэчку мутную згублю.
Ні з кім бяду не раздзялю.
Нашто... каму... мая бяда?
Хай лепш знясе яе вада,
Хай змые,—
Каб не пабачылі яе
Ні добрыя, ні злыя.

## ГОЛАС ЧАСУ

### I

А час патрабуе
І кліча ў дарогу,
Настойліва раіць,
Пытаецца строга.

Свет гэтакі розны,
Пярэсты, стракаты.
Як выбегу боссю,
Жвір колецца ў пяты.

Зноў звычкі старыя —
Памацаць, праверыць,
А сэрца ў дзіцячыя казкі
Ўсё верыць.

Хай верыцца сэрцу
Ў дзіцячую казку...
І не апякайце яго,
Калі ласка!

## II

Пакуль цячэ жыцця рака,
І рэкі поўны малака,
І клічуць райскія сады
З крыніцамі жывой вады,
Зямля гасцінна кожны раз
То ў снег, то ў травы кліча нас.
Але ў вачах зямных туга,
Бо вісне чорная смуга.
Павінен час,
А мо не ён
Нарыхтаваў семнаццаць тон?

## III

Дзе жылы, дзе зямныя тросы,
Хто ўглыб глядзіць,
Хто злосна скосіць
Ад зайздрасці сляпыя вочы?

А мы, мы ў космас з цёплай ночы,
Мы ў новы век бярэм разгон.
Ды толькі ўсё ж семнаццаць тон
Чакаюць моўчкі той чаргі...
А хто пачне адлік другі?



Ты з хаты маёй пачынаешся,
З матуліных мук,
З матуліных рук.
Са мною на досвітку
ты прачынаешся.
Мы слухаем
сэрца нервовы стук.
Працуе Зямля-планета.
Спякотнае ў Латвіі лета,
На Украіне спявае ракіта,
А ў Беларусі
хвалюецца жыта...
Не скончыла я яшчэ падарожжа,
Лёс твой, Радзіма,
мяне ўстрывожыў.
А што, калі сілу
разгубяць людзі,

І скончыцца лета
і песень не будзе?
Трывога такая
ўплялася раптоўна,
Ведаю, думаць
так рызыкоўна:
Ёсць на планеце
розум і сіла.
Проста я сына
цяпер нарадзіла.



А вясна гуляе маладая
З ветрам, нібы восень залатая.

У крыніцы чыстыя глядзіцца,
Што ёй маладой начамі сніцца?

Злы мароз, а можа, лёс жаночы...
У вясны заплаканыя вочы.



Мне за дзень наступны не баяцца,
Змалку я ахвочая да працы.
Да зямлі схілюся, як травінка:
Я ж яе дачка, яе крывінка.

## НАКАЗ СЫНУ

Вазьмі ў сваё сэрца на схову
Дрымоту маўклівых ракіт,
І поле, і луг каляровы,
І родны блакіт.
Вазьмі ў сваё сэрца на схову
Адзінай Айчыны сцягі
І словы купалаўскай мовы
Як спадчынны скарб дарагі.



Клала я маліну
На даланю сыну,
Каб жыццё салодкім,

Доўгім, не кароткім
У яго было,
Каб рука трывала
Цвёрдае трымала
На вірах вясло.
Вырас сын,
Вясло трымае,
Сам шукае
І малінку,
І журавінку.



Не даю табе я многа:
Крыху сонца на дарогу
І вады палову флягі,
Каб табе не ведаць смагі.
А яшчэ ад прэснай долі
Ты вазьмі панюшку солі,
У мяне вазьмі што трэба —
Сам здабудзь акрайчык хлеба.
Каб не думалі, што я
Гадавала гультая.
Не забудзь і водар ніў,
Каб паўсюль радзіму сніў.

# ПАДАРОЖЖА Ў МАЛАДОСЦЬ

Сама я сёння буду гідам.
Глядзі, якія краявіды,
Сынок, табе я пакажу.
Я гэтым краем даражу:

Маленства тут маё хадзіла,
Юнацтва тут мяне вадзіла.
Вось толькі хіба ў Мінскім моры
Яшчэ я не лічыла зоры.





## ДЗЕДАЎШЧЫНА

(Паэма)

### I

Зямля бацькоў,
Зямля мая,
Ты нас пасеяла, і я
Цябе на досвітку буджу,
Тваімі сцежкамі хаджу.
Тваімі сцежкамі блукаю,
Сляды маленства ўсё шукаю:
Дзе ногі казытаў мурог,
Дзе ноччу маладзік сцярог,
Каб д'яблы дзесь не ўвалаклі,
Каб злыя людзі не ўраклі.

Маўлялі, што Касьян-дзядок
Мяне з калыскаю ў садок
Выносіў
Пад неба просінь.

## II

### ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

Ой, засумавала
Горкая каліна,
Ой, і шанавала
Маці свайго сына.

Хмарка з ім гуляла,
Вецер яго гушкаў,
Сонейка цярпліва
Сушыла пялюшкі.

Ой, засумавала
Горкая каліна,
Ой, узгадавала
Маці свайго сына.

Вырас ён, як жораў,
Худы, даўганогі,
Дзесьці ходзіць, топча
Пыльныя дарогі.

Не хадзі, мой сынку,
Не хадзі далёка:
Бо не тую долю
Стрэнеш неўзнароку.

## III

Не заціхае песень звон,
Бярэ душу маю ў палон.
Не я, а родныя паляны
Закалыханы.
Час песні дзедаўшчыны нёс,
І адбіваўся ў песнях лёс.

## IV

### ПЕСНЯ ДРУГАЯ

Ёсць ля самай рэчкі
Зялёны лужочак,
Зялёны лужочак,
Мяккі муражочак.

На лужок зялёны
Дзяўчаты хадзілі,
Дзяўчаты хадзілі,
Карагод вадзілі.

А з-за лесу паніч,
Тутэйшы вяльможа,
Прэцца на дзяўчатак,
Скарай яго, божа!

Седачову кветку
Ў дарагую брычку,

Пасадзіў, бы ў клетку,
Бедную сінічку.

Падмятала сцежкі
Доўгаю касою,
Аблівала травы
Горкаю слязою.

У панічовай хаце
Доўга не служыла,
На сябе па свяце
Рукі налажыла.

Хто яго навучыў так спяваці,
Бачу вочы заплаканай маці...

А песня разліваецца,
Нясецца зноў і зноў,
Здаецца, з ёй зліваецца
Бунтарны час кастроў.

## V

### ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

Душагубы, злыя паны,
Сон-травы ў медавухі збаны,
Галавешак на ўцехі,
Пеўняў пад вашы стрэхі.

## VI

Кастры бунтарныя дымілі,
Нас дні Кастрычніка ўскармілі,
Глядзеў бунтарны наш народ
На Ўсход.

## VII

### ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Свяці, свяці, сонейка,
Нам свяці!
Нашы нівы родныя залаці,
Апусціся кветкамі на лугі,
Параскрэчвай росамі
Мурагі.

Свяці, свяці, сонейка,
Нам свяці.
Ты чырвоных коннікаў
У край вядзі.
З ветрам хмары чорныя разгані
І сцягі чырвоныя
Развіні.

## VIII

«Я з Усходняй,
Ты з Заходняй
Нашай Беларусі...»

Над табою сцяг чырвоны
Сёння развінуўся.

Вышывала ўпотай маці
Сцяг, каб волю сустракаці,
Шоўкам сцяг той вышывала,
За іконамі хавала.
Прыняслі мы тому сцягу
Сваю сілу і адвагу.
Сцяг паклікаў да змагання,
Да вялікага яднання.

## IX

І мы дачакалі волі.
У старэнькай мясцовай школе
Сабраўся працоўны люд:
Мінуўшчыне скласці прысуд.

Сцяг чырвоны над сталом.
— Старое жыццё на злом!

Хтосьці мітынгаваў.
Дзед новую песню склаў.

## X

### ПЕСНЯ ПЯТАЯ

Вітайце братоў урачыста,
На танках сталёвых імчацца
танкісты,

А кожны танкіст
Вясёлы, прыгожы.
Гэй, шляхта-панове,
Даволі лічыць нашы грошы,
Даволі нам пот на вас праліваць,
Выходзім усе мы калгас будаваць.

## XI

Дзед песню нам прагаварыў,
Сваю дымілку закурыў,
Бадзёры і вясёлы
Пайшоў на сходку ў школу.
Нагнаў ля школы дзеда
Клыбаты Хведар.
Землямерам Хведар быў,
Кастылём зямлю дзяліў.
Зведаў клопату нямала,
Ды дзяльба была удалай.
Па палосцы ўсім пяскоў,
Ну і лепшай ад ляскоў,
Падзяліў як след лугі,
Гаспадар быў неблагі.
Ведаў, што і да чаго,
Паважалі ўсе яго.

## XII

На сход прыйшло людзей багата,
Здавалася, трашчала хата.

Прыйшло амаль усё сяло,
Малым аж месца не было.
Але ж было цікава нам,
Што робіцца у школе там.
Да шыбін ціснулі насы,
Услухваліся ў галасы.

## XIII

Чубак трасе кулаком,
Дзеда зрабіў кулаком.
— Ты паравік прадасі!
— На! — кажа дзед.— Укусі!
Дурань, дзярэшся чаго?
Ты нажываў нам яго?
І не вучы мяне жыць,
Ведаю сам, што рабіць.
Што галавою трасеш?
Сам вошы ў калгас панясеш,
Маць тваю... (так-ператак),—
Дзед быў на гэта мастак.

— Ці вы бачылі, ці чулі
Пры Савецкай ўладзе дулі?!
Я цябе пад суд аддам! —
Слова папрасіў Адам,—
Быў разважны гаспадар,
Меў, як кажуць, божы дар,
Гаварыў ён ладна,

Граматна і складна.
— Усе чакалі нашай ўлады,
Усе чакалі, усе ёй рады,
Дык чаго тут воду ліць?
Сэрца па зямлі баліць,
Дык яна, зямелька, людзі,
Не чужой, а нашай будзе.
Мы адзіны калектыў.
Калгас «дело», каб я жыў.
Запішы мяне, Панас:
Галасую за калгас.
Конь, авечкі,
Дзве каровы,
Воз шырокі, двухметровы.
Два цапы, граблі, сані,
Яшчэ жонку, бо не пані.
За Адамам вырас спіс,
Запісаўся Чубак, Ліс,
Запісаўся наш сусед.
За суседам выйшаў дзед.
— І мяне, Панас, пішы,
Касьяны не галышы.
Праўда, сын ад рук адбіўся,
Бо ад бацькі аддзяліўся.
Ты, Панас, таго...
Паравік не мой, яго.
Майстраваў яго ён сам,
Кажа, ў МТС аддам,
Сам туды пайшоў на працу,

Ад зямлі стаў адрывацца.
МТС дык МТС,
І без Цёмы будзе лес.
— Паравік не мой, яго,
Прэшся ты ў калгас чаго?
А Чубак пачынае наноў:
— Без Касьянавых кароў
Не абыдзецца калгас.
Не пішы яго, Панас.
Хопіць гвалту, давай цішыню!
Выбіраць пара старшыню.
Зашумелі, загулі:
— Яшчэ ж так не пажылі,
А цяпер ідзі ў калгас...
— Дзядзька, дзядзечка Панас,
Не забудзь жа і пра нас! —
Ад дзяўчат нясліся жарты.
— Што вы ў справе гэтай варты?
— Выбірайце старшыніху,
Справа пойдзе ў адну міху.
Сам, Адам, калгас бяры!
— Што вы, людзі, я стары.
— Справы не псуюць старыя!
— Знойдуцца і маладыя!
— Каб не прыезджы, каб свой!
— Хведар, ты будзь старшынёй!
— Хведар, Хведар — божы дар,
Ён не лепшы гаспадар.
— Чубак здатны да ўсяго,

Давайце выберам яго!
Як панове будзем жыць,
Кожны дзень гарэлку піць.
Рогат хату скалыхнуў.
Чубак сеў, рукой махнуў,
Вочы на дзеда скасіў,
Язык прыкусіў.

## XIV

Дзе ты, старое сяло?!
Быццам цябе не было.
Новыя школы, дамы,
Іншымі сталі і мы.
Моцна сталёвыя коні
Упісаны ў нашы гоні.
У кожнай хаціне дастатак,
Пасецца калгасны статак.
У калгасах свае пілоты,
Спраўна вядуць верталёты,
Сеюць і садзяць свядома
Свае аграномы.

## XV

Ну, а калі патух пажар,
Пачаў партыйны сакратар.
Прыгожы, статны, малады,
Маўляў, пра новага сляды:

Пра тое, што нямыя гоні,
Сталёвыя уздымуць коні.
Так яго ісціна маўляла,
Што кроў у жылах застывала.
І наша сёння ажывала.
Як пасля той сходкі
Дзяўчаты дралі глоткі.
Казала Каўшаліха,
Што іх было да ліха.
Яны то жартавалі,
То весела спявалі.
Галоўны сціпла гляне
І ўсё на нашу Маню.
Казаў, што не жартуе,
Пасватаў бы такую.
Маўляў, жаніцца буду.
— Ах ён, стары прыблуда,—
Крычала бабка Ганна,—
Мо хіба што пад наганам
Да шлюбу павядзе,
А Манька гэта дзе?
Мо з ім ужо і ў замове?
Дзякуй на добрым слове,
Сватоў такіх, дальбог,
Мятлой цераз парог!

## XVI

У хату ўбеглі малышы:
— Імчыцца газік ад шашы!
Імчыцца газік, нібы куля!
Гасцей прывеціла бабуля:
— Куды, заблуды, жарабцы?
Няма ў мяне для вас аўцы!
А Маня ўбачыла яго,
Ўздыхнула:
— Мамачка, чаго?
— А вось яна, ваша авечка,
Сама хай скажа нам славечка.
Людзей набегла з паўсяла.

Павёз Антон у чым была.
Каму такі не будзе люб!
Па-новаму зрабілі шлюб,
Не ў царкве, а ў сельсавеце.
А неўзабаве, дзесь па леце,
Кватэру у Скідлі ім далі,
Дачушку Раю нажылі.

## XVII

Ды толькі нядоўгім іх шчасце было:
Вайною знянацку яго апякло.
Прарвала вайна іх шчаслівы сон.
У Мінск быў запрошан Станкевіч Антон:

Збірала зямля сваіх абаронцаў,
Каб партызанілі ў гэтай старонцы.

За сокалам ясным,
Ад хаты, ад роду
Ўзляцела і птушка,
Бы канула ў воду.

## XVIII

Фашысты па сёлах страшэнна
лютуюць,
Дзед кажа:
— Пагібель сваю яны чуюць.

Вярнулася птушка,
Ўляцела ў хаціну.
Вяскоўцам казала,
Антон яе кінуў.
Яе прывяло даручэнне і гора,
Вярнулася з дзіцем
Маленькім і хворым.
Размовы прыціхлі.
Застацца жывой,
А значыць, патрэбнаю,
Сувязной.

## XIX

Што б ні рабілі,
Не бывалі дзе б,
Усюды з намі
Наш надзённы хлеб.

З духмяным свежым караваем
Мы ўсё на свеце раздзяляем.
Ён гаспадар,
Ён наш суддзя:
Нібы маленькае дзіця,
Ён патрабуе ўвагі,
Калі ў бядзе мы знемаглі,
Ён дадае адвагі,
Бывае цвёрды і сухі...
Хлеб нам заўсёды дарагі,
Ён дарагі, калі ясце,
Ён дарагі, калі расце.
Хлеб ад знявагі зберажы,
Сынам і ўнукам раскажы.
Пабачыла, як хлеб гарыць,
Мне гэты боль яшчэ баліць,
Як толькі ў рукі хлеб бяру,
Я тую згадваю пару.

Пад вечар летні ўсё было,
На сон збіралася сяло.
Уляцела вестка з сном да хат:

— Прыехаў карнікаў атрад!
Збіраюцца прабыць да рана,
Лавіці будуць партызанаў.
Аж пабялела цётка Маня...
— Што заўтра з намі, з вёскай стане?
А трэцяе гадзіне ночы
Антон сустрэцца з ёю хоча.
І з вёскі ў лес
Ляціць, бы птах,
З маленькай Раяй на руках.
— Хальт, хто ідзе?
Хальт! Хто ідзе?
Малое хіліць за грудзей.
— Іду ў Гліняны да сястры:
У непрытомнасці стары.
Нам бацьку трэба ратаваць,
Прашу, паночкі, пропуск даць.
— Назад! Ніякіх прапускоў,
Вось колькі нас тут дактароў,
І кожны можа...
Табе і бацьку дапаможа!
— Няма сумлення, літасць майце,
А літасці няма, страляйце.
— Не галасі, не галасі!
Вяртайся, гадзяня нясі!
Калі не здохне твой стары,
Палечаць сёння дактары.
— Як папярэдзіць цябе, мілы,
Падсеклі птушцы тваёй крылы,

Душу пякучы боль вярэдзіць,
Як партызанаў папярэдзіць?
Засада ў жыце, ля шашы.
І раптам...
— Божа, Іляшы!
Хто запаліў, чаму гарыць?
Каго за гэта ўсё карыць!
Ёй чуецца з двара;
— Куды бяжыш, там немчура?
За роў бяжыце, за аўсы!
Гарыць жывыя каласы...
Ўсплываюць болем тыя дні,
Як хлеб гарэў на карані.
Ад самай хаты Іляшоў
Аж да шашы агонь ішоў.
Ў вачах маіх ён не пагас,
Мне бачыцца, як дзед Панас,
Сляпы, старэнькі, а бяжыць
Пажар тушыць.
— Глядзі, кашуля абгарэла,
Гарыць душа, гары і цела!
Свой горкі хлеб агню не дам:
— Не лезь, куды! Згарыш і сам!
Ён на агні ля жыта стаў,
Шырока рукі распластаў...
— Не! Я душою не аслеп,
Агонь, не дам табе свой хлеб!
А вы, пакорныя бязмеры,
Дзе вашы косы, дзе сякеры?

Ў свой час апошні, заклінаю,
Ганіце нечысць з свайго краю!

Назаўтра вёску ператрэслі.
У Скідаль карнікаў павезлі.
Над імі слёз не пралівалі
І без пашаны пахавалі.
А ў вёсцы доўга гаварылі,
Што немцы сп'яну хлеб спалілі.

## XX

Неяк аднойчы,
З самага ранку,
Прыйшлі паліцаі
Шукаць партызанку:
— Сядай, прыгажуня,
Табе вось падвода,
Знаць, зроблена дзесьці
Вялікая шкода.
І воз даганяла
Дзяўчынка малая,
Дачка партызана —
Антонава Рая.

## XXI

Такое калісьці забудзецца хіба?
У гестапа Марыя маўчала як рыба:

Каму і куды яна лекі насіла.
Святое каханне давала ёй сілы.
Такога кахання яшчэ не бывала,
Антона Марыя і ў снах цалавала.
Баялася, сноў каб не разгадалі,
Адно толькі — кінуў! — губы шапталі.
Праз год адпусцілі,
А выйшла, не рада,
Ведала, ў вёсцы будзе засада.
Сама, безумоўна,
Не пойдзе нікуды,
Бо ведала, вочы
Віжуюць усюды.

## XXII

Рукою Антона радкі на паперы!..
Вялікая радасць,
Радасць без меры.
Жывы, не папаўся,
Не лез на ражон,
Яе даражэнькі,
Станкевіч Антон.
Цямнела,
За вокнамі дзень пашарэў,
Яна сёе-тое для хлопцаў збярэ.
У зямлянках не радасць
Зіму зімаваць.
— Тата, аўчыны трэба аддаць.

Моўчкі аўчыны Касьян прывалок.
— Яны не цяжкія, дацягнеш, сынок.
За Гутавай хатай, сынок, ці былі?
— Дзякуй, дзядуля, харч узялі.
Болей не трэба насіць тытуню,
Ой, ледзь успомніў, прасілі агню.
Ну добра, дык з богам!
Садамі праз роў
Касьян партызана
Сам перавёў.

## XXIII

Зіма мінавала,
Дык неяк вясной
Марыю назвалі
Камбрыга ўдавой.
— Фашыстаў прагоняць,
Жыць бы ды жыць,
А любы ў зямельцы
Астрынскай ляжыць.
Дачку не абдыме
Ніколі ўжо ён,
Яе наймілейшы,
Станкевіч Антон.
І горкія слёзы
Па любым ліла
І зноў сувязною
У атрадзе была.

## XXIV

І дзед наш Касьян
Дачакаў перамогі,
Увесь пасівеў,
Стаў сумны і строгі.
— Вайною пякельнаю ўсё патаўкло,
Галодныя людзі ідуць праз сяло.
То бульбы, то жыта,
То жменю круп
Галодным даваў,
Не быў ён скуп.
Тытунь свой насушаны
Надта курыў.
— Нічога, наладзіцца! —
Усім гаварыў.

## XXV

Вясна была шчодрай
На дождж і на сонца,
І ўсё ажывала
У нашай старонцы.

Спеў хлеб залацісты,
Было і да хлеба.
Хіба ж чалавеку
Што іншае трэба?
А трэба, бо стаў наш дзядок вечарамі

За кніжкі прысаджвацца з намі.
Бабка на дзеда
З усмехам глядзела.

— Ты знаеш, Гануля,
Што тут накіпела?
А мне гаварыў:
— Ты запішы,
Каб не патухла песня ў душы.

## XXVI

### ПЕСНЯ ШОСТАЯ

Спявайце, людзі,
Ужо каля хаты
Болей не ходзіць
Фашыст пракляты.

Рукам схуднелым
Зноў сілу дайце,
Жыццё нанова
Зноў аднаўляйце.

Удосталь нівы
Засейце хлебам,
Бо праўду ведаць
Унукам трэба.

Хоць праўда тая
І горкай будзе,
Ды ведаць гэта
Павінны людзі.

Каб памяталі
Пра хлопцаў паўшых,
За перамогу
Галовы склаўшых.

## XXVII

Даўно змянілася сяло,
Вайны нібы і не было.
Адно пэчэ часамі рана
Ў дачкі і жонкі партызана.

Як Раю замуж выдавала,
Тры дні ўся вёска танцавала,
Пілі і госці і сваты
За лёс і шчасце сіраты.
Тры дні ліліся слёзы ў маці,
Вядома, ёй шкада дзіцяці:
— Дачка шчаслівая спявае,
А маці слёзы пралівае.
І толькі між старых гаворка,
Што горка мацеры, ой горка!
Адна дачушку узрасціла,
Вайна яе асіраціла.

Жаніх і добры, і прыгожы,
А бацька паглядзець не можа...

## XXVIII

На полі астрынскім
Помнік сівы,
Начамі прыходзіць ён да ўдавы,
Гарачыя рукі ў далоні кладзе,
Па любаму краю Марыю вядзе.
Глядзі ж ты, каханая,
Пільна глядзі,
Тут жыта пасей,
Там сад пасадзі,
Сумленнымі быць
Унукаў вучы,
А ў час перамогі
Крыху памаўчы.
Я вартавым застануся навек,
А людзі адзначаць —
Жыве чалавек.



# ЗМЕСТ


*** Шляхі жыцця, быцця штрыхі... 3
*** Ці ўсё табе я аддаю, жыццё... 3
*** Слухай, сэрца, мяне, шчыра слухай!.. 5
*** О дзень, што ты для часу значыш?.. 5
*** Мне б толькі маме пакланіцца... 6
*** Іду такая не лясная... 6
*** Жыццё, жыццё... 7
Вясёлка 7
Адвячоркавы ўспамін 8
*** Туман густы, густы... 8
Вочы восені 9
*** Вярба сумуе ля вады... 10
*** Дзень добры, маё маленства... 10
*** Я ўсё спяшаюся, бягу... 11
*** Паўстанак радасці, прабач... 11
*** Плыву ад каляровых сноў... 12
*** Што, Гаўя віравокая... 13
*** Світанак, світанак... 13
*** Не трэба... 14
*** Па зімах зморaных блукаючы... 14
*** Маршчынкі светлыя матулі... 15
*** Вясна ступае асцярожна... 15
*** Яшчэ нас з табою дарога вядзе... 16
У нас паэты вучаныя 16
*** Усё паўтараецца ў свеце... 17
*** Бегла я за голасам... 17
*** Мы ўсе пячэмся за дзяцей сваіх... 18
*** Дзе мне песню такую знайсці... 18
*** Зямля мая мяне гайдае... 19
Сыну 19
Гітарыст 20
*** Куды ўцячы... 20

*** Яшчэ кахання сын мой не спазнаў... . . 21
*** Хто шукае, той знаходзіць... . . . . . . . 21
*** Ці ж нам не сцеле восень падногі... . . 22
Заблуканаму . . . . . . . . . . . . . . . . 22
*** Вырастай, маленькі чалавек... . . . . . . . 22
*** Маладому хлопцу сніцца... . . . . . . . . 23
Роздум . . . . . . . . . . . . . . . . 23
*** У кожнага лёс асабісты... . . . . . . . . 24
*** Ці ж мудрацы зрабілі адкрыццё... . . . . . 25
*** На тварах матак заклапочаных... . . . . . 25
*** Спякота — не схаваешся нідзе... . . . . . 26
*** Завея кросны не снуе... . . . . . . . . . 26
*** Уздыхаюць вясной бярозы... . . . . . . . 27
Яблынька . . . . . . . . . . . . . . . . 27
*** Мінае час, ён абнаўляе век... . . . . . . . 28
*** Колькі сцяжынак... . . . . . . . . . . . 28
Кола . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Умалот . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Рукі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30
*** Белыя зайчыкі скачуць... . . . . . . . . 30
*** Дарогі, дарогі... . . . . . . . . . . . . 31
*** Сон найлепшы у дарозе... . . . . . . . . 31
Мудрасць . . . . . . . . . . . . . . . . 32
*** Дуб плячысты... . . . . . . . . . . . . 32
*** Сколькі мора пераваліць... . . . . . . . . 33
*** Паэзія — гэта чароўны палон... . . . . . . 33
*** Зноў да цябе звяртаюся я... . . . . . . . 34
Мая Беларусь . . . . . . . . . . . . . . 34
*** Спяць ластаўкі пад дахам хаты... . . . . . 35
Зямлі . . . . . . . . . . . . . . . . . 36
Гродна . . . . . . . . . . . . . . . . . 37
*** Зорачкі-зоры... . . . . . . . . . . . . 37
*** Хвалі ракочуць... . . . . . . . . . . . . 38
Вайна . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
*** Хатынь. Хатынь... . . . . . . . . . . . 39
*** Адвеку вы шчасця шукалі... . . . . . . . . 39
Маткам . . . . . . . . . . . . . . . . . 40
*** Хоць гарадская... . . . . . . . . . . . . 40
Стары дом . . . . . . . . . . . . . . . 41
На Гомельшчыне . . . . . . . . . . . . . 41
*** Ціша... . . . . . . . . . . . . . . . . 42
*** Дарэмна крыўдзішся, мой бераг... . . . . 42
Белая дзюна . . . . . . . . . . . . . . . 43
Да помніка Яну Райнісу . . . . . . . . . . 43
Давіна . . . . . . . . . . . . . . . . . 44
Імгненні . . . . . . . . . . . . . . . . 44
*** Хіба ж можна з табой не бачыцца... . . . . 45
*** Мы шчыра любім той куток... . . . . . . 46

Пахі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 46
*** Памяць вяртае ў святое... . . . . . . . . . . 47
Хвіліна маўчання . . . . . . . . . . . . . . . . 48
У памяць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49
*** На акопішчы мурог... . . . . . . . . . . . 50
На Грундвальскім полі . . . . . . . . . . . . . 51
*** О колькі плёну, колькі руху!.. . . . . . . . 52
*** Цяпло вясны нас цешыць... . . . . . . . . . 52
Жыццё ў руху . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Дарога . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
*** Нехта кінуў сляды... . . . . . . . . . . . . 54
*** Здрадзіць можна... . . . . . . . . . . . . 54
*** О колькі сілы трэба мець... . . . . . . . . 55
*** Лягчэй жывецца маладым... . . . . . . . . 55
*** Не сумуй, чалавеча... . . . . . . . . . . . 56
*** Так кліча лес... . . . . . . . . . . . . . . 56
Латвіі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 57
*** — Скажы, дзядок сівабароды... . . . . . . 57
*** Спяшаю маме пакланіцца... . . . . . . . . . 58
*** Мне вады адзін глыток... . . . . . . . . . . 59
Закаханым . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 59
Мама . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 60
*** З песняй матчынай... . . . . . . . . . . . 60
*** Пераспяваю, пераплачу... . . . . . . . . . 61
Голас часу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 61
*** Ты з хаты маёй пачынаешся... . . . . . . . 63
*** А вясна гуляе маладая... . . . . . . . . . 64
*** Мне за дзень наступны не баяцца... . . . . 65
Наказ сыну . . . . . . . . . . . . . . . . . . 65
*** Клала я маліну... . . . . . . . . . . . . . 65
*** Не даю табе я многа... . . . . . . . . . . . 66
Падарожжа ў маладосць . . . . . . . . . . . . 67
Дзедаўшчына. (Паэма) . . . . . . . . . . . . . 69

**Кавалюк А.**
12 Імгненняў след: Вершы, паэма.— Мн.: Маст. літ.. 1987 — 95 с.: іл.

Яшчэ студэнткай Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы заўважыў маладую паэтэсу і падтрымаў Міхась Васілёк. Потым у Аўгінні Кавалюк выходзілі зборнікі паэзіі. Цяпер Аўгіння Кавалюк жыве і працуе на педагагічнай ніве ў Рызе. Латвія і Беларусь, роздум над жыццём, вечна маладое пачуццё кахання напоўнілі і новую кнігу паэтэсы.

**4702120200—071 / М 302(03) — 87** 53—87 **ББК 84Бел7**



**Евгения Трофимовна Ковалюк**

**СЛЕД МГНОВЕНИЙ**

*Стихи, поэма*

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**

**На белорусском языке**

Рэдактар *Р. І. Барадулін.* Мастак *Т. Д. Царова.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Т. В. Трубач*

ІБ № 2132

Здадзена ў набор 06.11.86. Падп. да друку 13.03.87. АТ 07578. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,00. Ум. фарб.-адб. 3,26. Ул.-выд. арк. 2,94. Тыраж 2500 экз. Зак. 3076. Цана 35 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

